

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№5 (297) КРАСАВІК 2021 ГОД


САЛІДАРНАСЦЬ

## ДАПАМАГЛІ ТАЛАКОЮ

**Жонка шумілінскага палітвязня Дзмітрыя Кулакова, які адбывае «хімію» ў Шклове, адна выхоўвае дваіх дзяцей. Пасля таго як забралі мужа і бацьку, сям'я аказалася ў цяжкім фінансавым становішчы. На дапамогу прыйшлі неабыякавыя беларусы.**

30-гадовага Дзмітрыя Кулакова з Шуміліна ў снежні 2020 году прысудзілі да трох з паловай гадоў «хіміі», прызнаўшы вінаватым у абразе супрацоўніка міліцыі (арт. 369 КК) і пагрозе ўжывання гвалту ў дачыненні да міліцыянта (арт.364 КК). Адбываць тэрмін палітвязня накіравалі ў горад Шклоў, а дома з двума непаўналетнімі дзецьмі засталася жонка Юлія.

Як расказала Юлія Кулакова, яе муж знаходзіцца ў шклоўскай папраўчай установе адкрытага тыпу №49 і працуе на пілараме. Да арышту Дзмітрый быў асноўным у сям'і «здабытчыкам», ездзіў па Беларусі – рабіў альтанкі і каркасныя хаты. Зараз жа ўсе фінансавыя клопаты ляглі на плечы Юліі.

Неабходна ўтрымліваць двух непаўналетніх дзяцей – дзевяці і трох з паловай гадоў, – вазіць прадукты мужу, дапамагаць яму з аплатай утрымання на «хіміі», а таксама аплачваць арэнду кватэры ды камуналку. Свайго жылля ў Кулаковых няма, у Шуміліна жывуць ад 2016 году (самі з Лепельшчыны).

Юлія працуе пазменна на мясцовым сырзаводзе (у рэжыме два дні праз два). Заробак невялікі, але лепшую працу ў Шуміліне знайсці немагчыма. Альбо сырзавод, альбо птушкафабрыка. Каб звесці канцы з канцамі, жанчына была вымушаная звярнуцца па дапамогу.

«1000 рублёў – бюджэт на 3 месяцы для ўтрымання мужа, часткову аплату камуналкі, рэчы першай неабходнасці для мужа і дзяцей (шкарпэткі, бялізна), для куплі праязнога (муж ездзіць на працу на аўтобусе)», – размясціла паведамленне на адной з платформаў.

Неабходная сума была сабраная вельмі хутка. «Я не ведала, што такое магчыма: я думала, што грошы не збяруцца», – дзеліцца Юлія.

Юлія збіраецца бліжэйшымі днямі з'ездзіць у Шклоў да мужа, якога не бачыла ўжо больш за месяц.

**Уладзімір Бяляўскі**
**"Віцебская вясна"**

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## ХТО ПАВІНЕН РАМАНТАВАЦЬ ПАД'ЕЗДЫ?

**Сёлета ў Шуміліне патрабуюць рамонту 71 пад'езд у шматкватэрных дамах. Яшчэ ў мінулым годзе камісія вытворча-тэхнічнага аддзела УП ЖКГ абследавала кожны пад'езд у шматкватэрных дамах Шуміліна, якая ўстанавіла неабходнасць хаця б "касметычнага рамонту". Аб чым былі вывешаны аб'явы ў адпаведных дамах.**

Нягледзячы на тое, што гэта справа работнікаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, шумілінцы самі бяруцца за рамонт.

Да прыкладу, нядаўна быў абноўлены пад'езд у доме № 59 па вуліцы Юбілейнай, у доме №43 па вуліцы Сіпко. Жыхары арганізавалі праца тут талакой, жанчыны мылі, адціралі, фарбавалі парэнчы лесвіцы, асноўныя работы – навядзенне сцен і столі рабілі мужчыны. Рамонт доўжыўся дзесьці на працягу месяца. Праўда і тое, што жыхарам з кожнай кватэры прыйшлося раскашэліцца на гэта па 30-40 рублёў. Усяго з пачатку года сваімі сіламі шумілінцы адрамантавалі 18 пад'ездаў, у той час як мясцовыя камунальнікі за месяц рамантуюць па 5 пад'ездаў. Варта дадаць, што па падліках УП ЖКГ за рамонт пад'езда ў трохпавярховым доме з кожнай кватэры прыйдзецца заплаціць каля 100 рублёў. Пры гэтым (УП ЖКГ прадастаўляе растэрміноўку на тры месяцы).

У сённяшніх эканамічных умовах для "сярэдняга шумілінца" 100 рублёў – сума немалая. Ёсць магчымасць "сэканоміць" удвая, аднак рамонты пад'ездаў у шматпавярхоўках – ці гэта праблема жыхароў, якія плацяць "за камуналку? Такім чынам можна паступова перакласці на іх і рамонт сцен, падвалаў і даху.

**Ян Вайтовіч**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

COVID-19

## ПРЫШЧЭПАЧНАЯ КАМПАНІЯ

**Паводле галоўнага лекара Шумілінскай ЦРБ Святланы Лінкевіч на Шуміліншчыне поўным ходам ідзе вакцынацыя ад каранавірусу. На сённяшні дзень у Шумілінскім раёне ўжо былі прышчэплены ад каранавірусу 271 чалавек.**

У рамках абласнога плана мерапрыемстваў прышчэпачная кампанія разлічана на 4 этапы. На першым этапе прадугледжана вакцынацыя медработнікаў, спецыялістаў сферы адукацыі, сацыяльнай сферы, людзей сталага ўзросту, якія знаходзяцца на сацыяльных ложках ва ўстановах кругласутачнага знаходжання.

На 2-м этапе будуць прышчапляцца людзі ва ўзросце 60+, з хранічнымі захворваннямі, якія могуць пагаршаць стан чалавека падчас хваробы. На 3-м этапе вакцыну атрымаюць людзі, у якіх на рабочых месцах ёсць высокая рызыка заражэння: работнікі сферы гандлю, камунальных службаў, вадзіцелі грамадскага транспарту. На апошнім этапе будуць правакцынаваныя ўсе жадаючыя.

А з 6 красавіка распачаўся другі этап вакцынацыі. Прычым гэта працэдура абсалютна бясплатная, праводзіцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

Зараз на Шуміліншчыне прышчэпліваюць расійскай вакцынай «Гам-КОВИД-Вак» (Спутник V). Схема вакцынацыі ўключае ўвядзенне 2-х кампанентаў з інтэрвалам 21 дзень. Ін'екцыя робіцца ў перадплечча. Усе пацыенты, якім зрабілі вакцынацыю, павінны заставацца пад наглядам медперсаналу на працягу 30 хвілін пасля працэдуры.

У цяперашні час прышчапіцца можна толькі ў Шумілінскай цэнтральнай раённай паліклініцы пасля папярэдняга агляду тэрапеўта і атрымання дазволу на вакцынацыю. Зацверджаны графік правядзення вакцынацыі: панядзелак, серада, пятніца з 9.00 да 16.00; аўторак, чацвер з 9.00 да 18.00.

З 19 красавіка, па меры паступлення вакцыны, вакцынацыя будзе праводзіцца ва ўрачэбных амбулаторыях згодна з графікам. Для гэтых мэт набыта тэрмасумка.

Для таго, каб зрабіць прышчэпку ад інфекцыі COVID-19, трэба звярнуцца ў рэгістратуру. На кожным тэрапеўтычным участку сфарміраваны спісы грамадзян, якія належаць вакцынацыі, згодна з этапамі. Участковыя медсёстры запрашаюць на вакцынацыю. Пасля агляду ўрачом-тэрапеўтам робіцца допуск да прышчэпкі.

Ці ёсць якія небудзь ёсць супрацьпаказанні?

– Вакцынацыя паказана ўсім асобам старэй за 18 год. Да супрацьпаказанняў адносяцца цяжкія алергічныя рэакцыі ў мінулым; цяжарнасць і перыяд груднога ўскормлівання; узрост да 18 год; гіперадчувальнасць да якога-небудзь кампанента вакцыны; вострыя інфекцыйныя і неінфекцыйныя захворванні. Карацей кажучы, пацыент павінен быць здаровы.

Дарэчы, сама галоўны ўрач Шумілінскай ЦРБ прышчапілася і нават праз 2,5 месяца пасля перанесенай каранавіруснай інфекцыі.

**Алесь Шумскі**

СПОРТ

## ГАННА СОЛА – ШОСТАЯ

**Дынара Алімбекава заваявала срэбра. За медаль змагалася і Ганна Сола, але стала шостай у гонцы з масавым стартам.**

Беларуская біятланістка Дынара Алімбекава заняла другое месца ў гонцы з масавым стартам і выйграла моладзевы залік Кубка свету гэтай гонкай завяршыўся Кубак свету сезона-2020/21.

Гонка праходзіла пры мацнейшым ветры, таму нават з шасцю (1 + 2 + 0 + 3) промахамі Дынара ўцякала з апошняй стральбы лідэрам, але на заключным крузе яе апярэдзіла нарвежка Інгрыд Тандрэволд (0 + 1 + 3 + 1).

Трэцяе месца заняла немка Францыска Пройс (0 + 1 + 4 + 1).

За медаль змагалася і Ганна Сола, якая з 8 (1 + 1 + 3 + 3) промахамі стала ў выніку шостай. Алена Кручынкіна (3 + 1 + 3 + 0) фінішавала 27-й.

Дынара Алімбекава ў выніку заняла сёмае месца ў агульным заліку і выйграла моладзевы залік Кубка свету.

Ганна Сола ў агульным заліку стала 23-й, Алена Кручынкіна - 30-я, Ірына Крыўко - 45-я.

У Кубку нацый Беларусь заняла пятае месца і атрымала права на алімпійскі сезон выстаўляць шэсць біятланістак.

**TYT.BY**

«ДАЖЫНКІ-2021»

## КУДЫ ПАЙДУЦЬ ГРОШЫ

**На падрыхтоўку Шуміліна да абласных "Дажынак-2021" выдзелена каля 26 млн рублёў.**

Паводле старшыны камітэта па архітэктуры і будаўніцтву аблвыканкама Аляксандра Шыдлоўскага, на сённяшні дзень работы па падрыхтоўцы Шуміліна да абласных «Дажынак-2021» ідуць поўным ходам і па графіку. Бадай што, на прывядзенне ў належны выгляд усіх аб'ектаў, (а іх у райцэнтры налічваецца болей за сто), было выдзелена каля 26 млн рублёў. Гэта сродкі абласнога, раённага бюджэтаў, заробленыя на суботніку жыхарамі рэгіёну.

Зараз у райцэнтры Шуміліна прыступілі да замены дарожнага пакрыцця на праезнай частке цэнтральных вуліц, кладцы пліткі на ходніках, рамонце жылога фонду. Ужо цяпер з'явіліся прыкметныя перамены ў абліччы гарадскога пасёлка, у якім з'явілася сем альпійскіх горак, зазелянелі першыя лісточкі на высаджаных карлікавых бярозах, клёнах, каштанах. Варта адзначыць, што на азеляненне і кветкавае афармленне райцэнтра накіравана 61,6 тыс. рублёў.

Большасць аб'ектаў, якія патрабуюць абнаўлення, ставяцца да сацыяльнай сферы. Гэта школы, бальніца, дзіцячыя сады, музей, Дом культуры, бібліятэка, пошта, стадыён. Згодна з графікам працы на іх павінны завяршыцца да

*(працяг на стр. 2)*

«ДАЖЫНКІ-2021»

*(пачатак на стр. 1)*
сярэдзіны жніўня. Каб не было затрымкі, будзе арганізавана трохзменным праца. У план уключаны капітальны рамонт шматкватэрных жылых дамоў. Істотна зменіцца цэнтральны парк. Тут будзе рэканструявана Алея Герояў, уладкаваны пешаходныя дарожкі, з'явяцца лаўкі, малыя архітэктурныя формы, новыя свяцільні.

За кошт сродкаў рэспубліканскіх субсідый будзе адрамантаваны вуліцы, якія з'яўляюцца працягам рэспубліканскіх і мясцовых аўтамабільных дарог з асфальтабетонным пакрыццём.

І гэта яшчэ не ўсё. Не застаюцца ў баку ад падрыхтоўкі да абласнога фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі «Дажынкі-2021» прадпрымальнікі Шуміліна. Да свята ў райцэнтры абновяцца больш за 50 аб'ектаў гандлю, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання.

Напярэдадні праводзіліся сустрэчы бізнесменаў са старшынёй Шумілінскага райвыканкама Віктарам Гутарава, а таксама абмяркоўваліся планы ў рамках камісіі па развіцці прадпрымальніцтва. Вывучаліся фінансавыя магчымасці суб'ектаў гаспадарання, прапрацоўваліся дэталі абнаўлення, каб яны гарманавалі з агульнай канцэпцыяй падрыхтоўкі да "Дажынак". Акрамя таго, частка бізнесменаў бярэцца за добраўпарадкаванне суседніх з іх аб'ектамі тэрыторый.

У цэлым на Шуміліншчыне дзейнічае 281 суб'ект прыватнага бізнесу, 195 індывідуальных прадпрымальнікаў. У недзяржаўным сектары эканомікі занятыя 1,6 тыс. чалавек. Менавіта ён на 55% фармуе раённы бюджэт, на яго прыпадае больш за трацiну аб'ёму прамысловай вытворчасці, звыш 80% экспарту. Мясцовыя прадпрымальнікі рэалізуюць за мяжой піламатэрыялы, алкагольныя напоі, вырабы з пластмасы, мясную прадукцыю. Пастаўкі ажыццяўляюцца ў краіны Балтыі, Расію, Украіну, Нямеччыну. Раённыя ўлады гатовыя разглядзець любыя інвестыцыйныя прапановы, аказаць усялякае садзейнічанне і дапамогу прадпрымальнікам.

**Алесь Прыбярэжны**

КРЫМІНАЛ

# СПРАВА ПЕРАДАДЗЕНА У СУД

**Завершана расследаванне крымінальнай справы аб жорсткім забойстве мужчыны ў Шумілінскім раёне. Трагедыя адбылася ў ноч з 3 на 4 лістапада 2020 года вёсцы Добрына.**

Падчас застолля паміж 59-гадовым гаспадаром дома і яго 45-гадовым знаёмым адбыўся канфлікт, у выніку якога госць нанёс пацярпеламу мноства удараў нажом і цвёрдым тупым прадметам. Мужчына памёр на месцы здарэння. Згодна з вынікамі медыцынскага агляду, ўтрыманне алкаголю ў паветры, выдыханым абвінавачаным, склала 2,95 праміле. Мужчына заключаны пад варту. Яму прад'ўлена абвінавачванне па ч. 2 арт. 139 КК РБ. Расследаванне крымінальнай справы завершана, матэрыялы перададзеныя пракурору для накіравання ў суд.

**Сяржук Крупскі**

# ЗАРЭЗАЛА МУЖА

**У аграгарадку Мішневічы жонка зарэзала мужа.**

У сямейнай пары з аграгарадка Мішневічы ў ходзе сумеснага распіцця спіртных напіткаў завязалася сварка. Жонка схапіла ў рукі нож і кінулася на мужа.

Ад атрыманых траўм мужчына памёр. Жанчына затрымана.

Супраць яе ўзбуджана крымінальная справа па ч. 1 арт. 139 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Забойства» (пазбаўленне волі ад 6 да 15 гадоў).

ПЕРАСЛЕД

# У ДУШ З НАРУЧНІКАМІ

**«Нават у душ вадзілі ў наручніках». Пасля 25 сутак на волю выйшла Крысціна Юдзіна.**

Увечары 19 красавіка з віцебскага ізалятару часовага ўтрымання (ІЧУ) выйшла на волю Крысціна Юдзіна, якая была затрыманая на Дзень волі і адбыла за кратамі 25 содняў адміністрацыйнага арышту паводле арт. 23.34 КаАП. Сустракаць Крысцыну да СІЗА-2 ў Віцебску прыйшлі яе сябры і знаёмыя.

**«Забаронена амаль усё»**

Па вызваленні Крысціна Юдзіна паведаміла, што ўмовы ўтрымання ў віцебскім ІЧУ значна пагоршыліся ў параўнанні з тым, як было раней. З 1 красавіка ў ІЧУ ўвялі рэжым, які прадугледжвае шмат забаронаў.

«Апошнія 19 сутак я правяла ў вельмі цяжкіх умовах: забаронена амаль усё. Нават кнігі і сшытак з асадкай выдаюць толькі на 30 хвілін у дзень. Па калідорах мяне вадзілі ў наручніках, нават у душ», – расказала Крысціна Юдзіна.

**Прасіла лекі – прапанавалі весці здаровы лад жыцця**

Паводле Крысціны, яе хацелі адправіць адбываць суткі ў камеру адну. Каб выказаць пратэст, яна адмовілася ад ежы. Толькі пасля гэтага дзяўчыну перавялі ў іншую камеру.

«Калі толькі трапіла ў ІЧУ, мяне апытаў лекар, пацікавіўся, ці ёсць у мяне хранічныя захворванні. Я пералічыла ўсе свае хваробы. Але гэта ніякім чынам не паўплывала на ўмовы адбыцця. Калі я прасіла таблеткі амепразолу ад гастрыту, лекарка мне адмовіла і параіла звярнуцца да сваякоў. А начальнік ІЧУ прапанаваў весці здаровы лад жыцця», – распавяла віцяблянка.

**У палітычных забіраюць матрацы**

Яна кажа, што цяпер ад 6-й раніцы і да самага адбою з камеры забіралі матрац і коўдру. Прыходзілася сядзець увесь дзень на лаўцы ці на падлозе, падаслаўшы ручнік.

«Як даведалася, матрацы забіралі толькі з тых камер, дзе сядзяць палітычныя. Сукамернікі, якіх перавялі з Полацку, таксама былі пазбаўленыя магчымасці карыстацца матрацамі днём. На гэтай падставе нават узнік канфлікт. Каб не рабіць нікога закладнікам гэтай сітуацыі, я папрасілася ў асобную камеру», – тлумачыць Крысціна.

Па яе словах, яна двое сутак адседзела ў камеры адна. Кажа, што, калі б яе не выводзілі на працу, то ў такіх умовах можна было б звар'яцець.

**Перадачы забаранілі**

«Перадачы ад 1 красавіка таксама забаранілі. Да гэтага часу я паспела атрымаць адну, астатнія, з пазнакай «возврат», я атрымала, калі выйшла з ізалятару. Прычым мне не передалі нават сродкі гігіены, якія ў самім ізалятары ніхто не выдаваў», – паведаміла.

Таксама ад пачатку красавіка з'явілася новае правіла: пад'ём па 2 разы за ноч на праверку.

Пасля 25 сутак у такіх умовах Крысціна адчувае сябе не вельмі добра, па дарозе дахаты скардзілася на галавакружэнне і слабасць.

**«Заплакала толькі аднойчы...»**

«За 25 сутак я заплакала толькі аднойчы, хоць маю чуллівы характар. Я не хацела, каб міліцыя бачыла мае слёзы», – прызнаецца Крысціна Юдзіна.

За ўтрыманне ў ізалятары Крысціне давядзецца заплаціць 362 рублі. Яна мае намер дазнацца, ці мелі супрацоўнікі ІЧУ законныя падставы ставіцца такім чынам да яе і сукамернікаў.

Нагадаем, да арышту яе прысудзіла 26 красавіка ў выязным паседжанні суддзя Вераніка Барысава (суд Першамайскага раёну). У 2020 годзе Крысціну Юдзіну затрымлівалі неаднойчы, пасля чаго кідалі на суткі ў ізалятар.

**А. Радцэвіч.**
**"Віцебская вясна"**

ЗДАРЭННІ

# КРАДЗЯЖЫ НА ЛЕЦІШЧАХ У МОСАРАВА

**У раённы аддзел унутраных спраў звярнуўся віцяблянін, які паведаміў, што з яго дачнага дома ў гэтай вёсцы прапалі электрадрыль, шрубавёрт, запчасткі да бензапілы, асабістыя рэчы.**

Урон ацэнены больш як на 600 рублёў. На наступны дзень у РАУС звярнулася жыхарка Сіроціна, якая расказала, што з яе дома ў Мосараве прапалі газавая пліта і асабістыя рэчы. Трэцім пацярпелым аказаўся жыхар Мінска – з яго дачнага дома вынеслі бытавы метал і газавую пліту.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку раскрылі серыю злачынстваў. Першы дом абра-баваў непрацуючы і раней судзі-мы жыхар Мосарава. На два апошнія крадзяжы ён яшчэ ўзяў падмогу – мясцовага жыхара. Супраць махляроў узбуджана крымінальная справа.

Дарэчы, супрацоўнікі крымінальнага вышуку раскрылі мінулагоднае злачынства, у ходзе расследвання зламыснік быў затрыманы

У верасні ў Шумілінскі РАУС паступіла паведамленне пра крадзеж у Рыпіншчыне (прапалі дарожны веласіпед, зварачны апарат, бітоны).

У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў устаноўлена, што чужое дабро прыбраў да рук жыхар Шуміліна. Ён знойдзены, затрыманы і змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання

Узбуджана крымінальная справа.

**Сяржук Крупскі паводле матэрыялаў УУС**

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

# ЧАРГОВЫ ЭТАП МАДЭРНІЗАЦЫІ

**Обальскі керамічны завод плануе завяршыць другі этап мадэрнізацыі да верасня 2022-га года.**

Як паведаміў дырэктар прадпрыемства Павел Манак, на рэканструкцыю выдзелены сродкі з абласнога і рэспубліканскага інавацыйных фондаў, вялікая частка абсталявання ўжо закуплена. У прыватнасці, будзе павялічаны аб'ём сушылак, цалкам аўтаматызуюцца абпал цэглы, яго сартаванне і ўпакоўка. Акрамя таго, рэканструкцыя дасць магчымасць выкарыстоўваць мясцовыя віды паліва – нафтакокс ААТ «Нафтан» і торф. Згодна з бізнес-планам яны будуць займаць у вытворчасці 80%. Прыродны газ будзе прымяняцца толькі як дапаможны элемент для стварэння пэўных тэмператур у зоне абпалу.

Першы этап мадэрнізацыі быў праведзены пяць гадоў таму. Тады была ўстаноўлена аўтаматызаваная тэхналагічная лінія па перапрацоўцы гліны, фармоўцы і сушцы цэглы. У якасці апаратара на ёй працуе Аляксандр Лысанов. На завод ён прыйшоў ў 1997 годзе адразу пасля заканчэння школы, пачынаў падсобным рабочым, затым быў абпальшчыкам. Асвойваць новую спецыяльнасць дапамагалі пастаўшчыкі абсталявання з Грэцыі. У асноўным размаўлялі з ёй праз перакладчыка, але падчас кароткатэрміновых курсаў таксама дапамагалі і школьныя веды ангельскай мовы.

Цяпер на заводзе працуюць 245 чалавек. За апошнія тры гады прадпрыемства пастаянна дадае ў аб'ёмах вытворчасці. Напрыклад, за 2020 й выпушчана больш 35,6 млн штук цэглы –тэмп росту да 2019-му склаў 106%. Тады ж на 60% ўдалося нарасціць экспарт. У цэлым на знешні рынак было пастаўлена прадукцыі амаль на 1,8 млн долараў.

Па словах галоўнага тэхнолага прадпрыемства Таццяны Аляксеевай, ужо два гады ў глінянай масе выкарыстоўваюцца выгараючыя дадаткі – пілавіне і торф. Новаўвядзенне дазваляе эканоміць прыродны газ пры абпале цэглы, паляпшае яго трываласць і марозаўстойлівасць да 100 цыклаў (замарожвання-размарожвання).

Таксама прадпрыемства выпускае керамічныя камяні, сувенірныя вырабы, тэніс і спецсумесі для падсыпкі тэнісных кортаў, гліняны парашок.

*(скарочана)*

**vitvesti.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# У ЧАКАННІ ДАСКАНАЛАГА ЗАКАНАДАЎСТВА

**Калі хочаце ўбачыць за дрэвамі лес, варта выйсці з лесу. Складана ацаніць сістэму ў цэлым, калі знаходзіцца ўнутры сістэмы. Позірк увесь час чапляецца за канкрэтыку. Праблема, аднак, палягае ў тым, што любая складаная сістэма ўтрымлівае мільёны канкрэтных фактаў. Але сістэма — гэта не іх механічная сума. Яна ўзнікае як вынік бесперапыннага ўзаемадзеяння фактаў паміж сабой.**




Паспрабую патлумачыць гэта з дапамогай культуролага Андрэя Пеліпенкі: «Бактэрыі, якія жывуць у страўніку нейкай істоты, калі ўявіць іх як разумных істот, могуць мець сваю „карціну свету", свой гарызонт разумення падзей, якія адбываюцца з імі, працэсаў. Але гэты гарызонт фатальна абмежаваны іх функцыямі, і вобраз арганізма як цэлага ў іх уяўленні заўсёды паўстае скажоным. Пры гэтым іх уласная рэфлексія з нагоды „сэнсу жыцця" і да таго падобнага будзе даволі далёкай ад сапраўднага прызначэння функцый, якія яны выконваюць...»

За патокамі фактаў, што былі згенераваныя падзеямі лета 2020 года, не так проста ўгледзець працэсы. Акрамя дыстанцыі, для гэтага патрэбны і час. Таму любыя высновы, зробленыя сёння, акажуцца ў лепшым выпадку павярхоўнымі.

Адзінае, на што можна абаперціся, — гэта мінулы досвед. Беларускай мадэлі пайшоў 27-ы год. Наіўна было б чакаць, што яе рэакцыя на масавыя пратэсты сфарміравалася пад уплывам страхаў канкрэтнай асобы (асоб) у рэжыме «тут і цяпер». Памыляецца і той, хто лічыць, што стаў сведкам нараджэння ў грамадстве і дзяржаве чагосьці прынцыпова новага.

**Тых, хто пайшоў у адрыў, не дагнаць**

У Пасланні—2013 слова «мадэрнізацыя» згадвалася 49 разоў, у Пасланні—2020 — толькі 2 разы! Прыватны выпадак або тэндэнцыя? А калі тэндэнцыя, то якая яе прырода?

Прыгадаю словы эканаміста Якава Міркіна: «Ні адна мадэрнізацыя ў Расіі не праходзіла без „кантракта" з Захадам. Ад XVII стагоддзя да дыктатуры пралетарыяту. Сталінская мадэрнізацыя была запушчана не толькі рэпрэсіямі, але і масавымі пастаўкамі з ЗША і Германіі — заводаў, тэхналогій, абсталявання. Яе ключавая фігура — Альберт Кан, выбітны амерыканскі прамысловы архітэктар, які паставіў на паток больш за пяцьсот заводаў у СССР. Кантракт Кана з СССР склаў 2 мільярды долараў (каля $30 мільярдаў па цяперашніх цэнах)».

Да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) тэрыторыя цяперашняй Беларусі была часткай заходняй цывілізацыі. На жаль, змена цывілізацыйнай ідэнтычнасці — не рэдкасць у гісторыі. Тое, што было, — сплыло, і за савецкі перыяд цывілізацыйны вектар у Беларусі канчаткова развярнуўся на 180.

Можна доўга спрачацца пра прычыны распаду СССР, але тое, што ён не даў рады пераходу ад індустрыяльнага да постіндустрыяльнага этапу развіцця, сумневаў не выклікае.

Гісторыя ведае мноства прыкладаў, калі індустрыялізацыя, з яе масавай вытворчасцю на гіганцкіх фабрыках, праводзілася пад кіраўніцтвам бюракратыі. Але постіндустрыяльная эканоміка без узмацнення асабістай аўтаноміі немагчымая. Тут колькі ні ўмацоўвай вертыкаль улады, колькі ні давай абавязковых да выканання ЦУ, тых, якія пайшлі ў адрыў, не дагнаць.

У 80-я гады я неаднаразова назіраў, як калегі ў СКТБ «Інтэграл» капіравалі заходнія мікрасхемы (распрацоўвалі аналагі). Паўтарыць іх подзвіг немагчыма. Мы адсталі назаўжды. Субмікронныя тэхналогіі не пра нас. Час запазычанняў скончыўся.

Сусветную статыстыку перапісвае В'етнам. Зразумела, з дапамогай найбуйнейшых IT-карпарацый. З В'етнамам яны супрацоўнічаюць, з Расіяй і Беларуссю — не. Але будаўнікоў Саюзнай дзяржавы гэта не засмучае. Нібы ліса з байкі Крылова, яны пераконваюць сябе ў тым, што ў такім супрацоўніцтве не маюць патрэбы.

....

**У адказ на запыт простых грамадзян**

Пошук ворагаў на працягу ўсёй гісторыі беларускай мадэлі разглядаецца ў якасці галоўнай дзяржаўнай працы. Абуджэнне грамадства ад палітычнай спячкі павысіла яе актуальнасць на парадак, а заадно да завоблачных вышынь вырас і статус тых, хто на пошуку ворагаў спецыялізуецца.

Эфектыўнасць у XXI стагоддзі дасягаецца за кошт падзелу працы, таму збіццём «пратэстуноў» справа не абмяжоўваецца. Да праблемы вырашана падысці комплексна, пра што і нагадаў адзіны палітык 18 сакавіка на «нарадзе аб выкананні даручэнняў па ўдасканаленні заканадаўчых актаў у сферы забеспячэння нацбяспекі і аховы грамадскага парадку».

Падставай для ўдасканалення заканадаўства паслужыў «запыт простых грамадзян на забеспячэнне грамадскай бяспекі, захаванне парадку і міру ў краіне». Куды ж без яго?! Не па ўласнай жа ініцыятыве занепакоіліся на вяршыні «вертыкалі» аховай канстытуцыйнага ладу?

Сур'ёзна занепакоіліся. У артыкуле 25-м Асноўнага закона чытаем: «Ніхто не павінен падвяргацца катаванням, жорсткаму, бесчалавечнаму або зневажальнаму для яго годнасці абыходжанню ці пакаранню, а таксама без яго згоды падвяргацца медыцынскім або іншым доследам».

У якасці каментара прыводжу фрагмент з агляду ПЦ «Вясна» за 2020 год. «На дадзены момант ПЦ „Вясна" задакументавана больш за 1000 сведчанняў ахвяр катаванняў. Іх аналіз дазваляе сцвярджаць, што катаванні і гвалт масавы, сістэмны характар і з'яўляліся арганізаванай, палітычна матываванай карнай акцыяй улад па застрашванні беларускага грамадства».

****

*І ў заключэнне каментар да каментара: «Мабілізацыя асобасных рэсурсаў пры адначасовым узбагачэнні іх якасці — праблема любой краіны, вымушанай ажыццяўляць тэхналагічныя мадэрнізацыі ў адказ на знешнія выклікі» (Аляксандр Ахіезер, гісторык).*

*На жаль, тэхналагічная мадэрнізацыя для беларускай мадэлі больш не актуальная. Такім чынам, спасылкі на 25-ы артыкул Канстытуцыі выглядаюць сёння анахранізмам. Мяркую, гэты факт не пройдзе міма чальцоў Канстытуцыйнай камісіі.*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ФІНАНСЫ

# УВЯДУЦЬ ВАЛЮТНЫЯ АБМЕЖАВАННІ?

**Лукашэнка падпісаў указ № 154, якім Нацбанку даецца права ўводзіць валютныя абмежаванні аж да поўнай забароны на ўсе валютныя аперацыі.**

Як паведамляецца, указ прыняты ў мэтах прывядзення заканадаўства ў адпаведнасць з законам ад 30 чэрвеня 2020 года N 36-З «Аб змяненні законаў па пытаннях валютнага рэгулявання і валютнага кантролю», які ўступае ў сілу з 9 ліпеня 2021 года.

З аднаго боку, указ, як і сам закон, адмяняе ўсе цяпер існуючыя валютныя абмежаванні. Але з іншага, указ № 154 дае Нацбанку паўнамоцтвы сумесна з Саўмінам уводзіць валютныя абмежаванні «ў выпадку пагрозы эканамічнай бяспецы, у тым ліку стабільнасці фінансавай сістэмы, калі сітуацыя не можа быць вырашана іншымі мерамі эканамічнай палітыкі». Прычым якіх-небудзь абмежаванняў на гэтыя самыя абмежаванні няма і Нацбанк можа нават усталяваць поўную забарону на правядзенне валютных і валютна-абменных аперацый. Адзінае, абмежаванні могуць быць устаноўлены тэрмінам да 1 года.

Нацыянальнае антыкрызіснае ўпраўленне (НАУ) ужо пракаментавала ўказ Лукашэнкі, назваўшы яго падрыхтоўкай да канфіскацыі ў насельніцтва сродкаў.

«Пра цяперашнюю сітуацыю ў эканоміцы мы ўжо пісалі не раз — і папярэджвалі пра абмежаванні. Сёння нам усім важна зразумець: акрамя абмежаванняў, ні ў Нацбанка, ні ў рэжыму не засталося адэкватных метадаў рэгулявання эканомікі. А для ўтрымання ўлады рэжым пойдзе на любыя меры — ад забароны на продаж валюты да замарозкі і нават экспрапрыяцыі ўкладаў. Тут нам варта ўспомніць і выкрыццё дэпазітарных ячэек у „Белгазпрамбанку" ў чэрвені 2020 года, змесціва якіх да гэтага часу вярнулі далёка не ўсім», — заяўляюць у НАУ.

**Л. Антонаў**
**Паводле ej.by**

ЗАМАХ

# АБМЕРКАВАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ ВЫДАЛІ ЗА ПАДРЫХТОЎКУ ЗАМАХУ

**У сюжэце АНТ паказалі сем чалавек, якія нібыта планавалі замах на Аляксандра Лукашэнкі і членаў яго сям'і, а таксама пераварот. Некаторыя з іх пракаментавалі запісы анлайн-канферэнцый, прадэманстраваных у эфіры.. В сенсационных сообщениях про «вооруженный мятеж» и планы убийства Лукашенко много странного. О ряде противоречий и нестыковок пишет в своем Фейсбуке политолог Валерий Карбалевич.**

Былы сілавік Павел Кулажанка, які жыве ў Нью-Ёрку, распавёў Tut.by, што ў эфіры было некалькі фрагментаў з розных анлайн-сустрэч.

— Гэта быў адкрыты дыскусійны клуб, які збіраўся са студзеня месяца. Склад удзельнікаў канферэнцый таксама змяняўся. Канферэнцыі рассылаліся вельмі многім людзям. На нашай дыскусійнай пляцоўцы абмяркоўвалася ўсё тое, што абмяркоўваецца на кухнях кожны вечар у любой беларускай сям'і: як паскорыць сыход Лукашэнкі, — растлумачыў Кулажанка.

Ён падкрэсліваe, што дыскусіі тэарэтычкаў нічога супольнага з падрыхтоўкай і планаваннем забойстваў і пераваротаў не маюць.

— Хоць цяпер праўладныя СМІ спрабуюць хоць як-то «нацягнуць саву на глобус» і апраўдаць выкраданне ў Расіі двух грамадзян Беларусі і дастаўку іх у Мінск, куды яны ў бліжэйшы час не збіраліся, — дадаў «змоўшчык».

З нагоды падачы ўрыўкаў з анлайн-дыскусій у сюжэце дзяржтэлебачання Павел Кулажэнка выказаўся вельмі лаканічна: «Ні слова праўды».

— Там многія фразы выразаныя з кантэксту, каб прадставіць інфармацыю ў святле, выгадным уладам.

**«Усё можна абмеркаваць. А вось атрымаць грошы і займацца планаваннем — зусім іншае»**

Яшчэ адзін з «сямёркі», навуковец Аляксандр Перапечка, які таксама пражывае ў ЗША, у каментары Радыё Свабода адзначыў, што здзіўлены тым фактам, што размовы паміж ім і яго калегамі па Zoom сталі падставай для гучных заяў аб тэрарызме. Паводле яго слоў, такія рэгулярныя відэапeрамовы вядуцца ўжо амаль паўгода. Ён таксама дадаў, што ўрыўкі некаторых з гэтых дыскусій публікуюцца на сайце geostrategy.info.

Перапечка падкрэсліў, што падчас анлайн-дыскусій вяліся дыскусіі аб усіх магчымых і немагчымых варыянтах сцэнара пераадолення глыбокага палітычнага крызісу ў Беларусі. На пытанне, ці абмяркоўвалася тэма пераваротy ў Беларусі падчас такіх анлайн-канферэнцый, Аляксандр Перапечка адказаў сцвярджальна.

— Дзяржаўны пераварот — галоўны спосаб пазбавіцца ад крывавай дыктатуры. Але паўтараю: усё можна абмеркаваць. А вось атрымаць грошы і займацца планаваннем — зусім іншае — падкрэсліваe навуковец.

*(працяг на стар. 4)*

ЗАМАХ

*(пачатак на стар. 3)*

**«Справа змоўшчыкаў»**

Нагадаем, 17 красавіка Аляксандр Лукашэнка заявіў, што палітолаг Аляксандр Фядута, кіраўнік партыі БНФ Рыгор Кастусёў і Юрый Зянковіч былі датычныя да планавання замаху на яго і яго сыноў. Ён таксама заявіў, што за падрыхтоўкай замаху стаялі спецслужбы і кіраўніцтва ЗША.

Кіраўнік КДБ Беларусі Іван Церцель у эфіры тэлеканала АНТ паведаміў, што Фядута, Зянковіч і Кастусёў знаходзіліся ў злачыннай групе, удзельнікі якой распрацавалі і пачалі рэалізоўваць план «па фізічнай ліквідацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і членаў яго сям'і, арганізацыі ўзброенага бунту з мэтай захопу ўлады гвалтоўным шляхам». У эфіры паказалі фрагменты размовы Аляксандра Фядуты і іншых «змоўшчыкаў» — Дзмітрыя Шчыгельскага, Ігара Макара, Рыгора Кастусёва, Аляксандра Перапечкі і Паўла Кулажанкі ў анлайн-канферэнцыі. У эфіры таксама заявілі, што «пераварот змоўшчыкі намецілі на лета гэтага года, чэрвень ці ліпень».

ФСБ Расіі пацвердзіла інфармацыю КДБ Беларусі і заявіла, што ўдзельнічала ў аперацыі затрымання Фядуты і Зяньковіча ў Маскве. Паводле інфармацыі ФСБ, яны прыбылі ў горад пасля кансультацый у ЗША і Польшчы, каб сустрэцца з «апазіцыйна настроенымі генераламі Узброеных Сіл Беларусі». Пры гэтым, як сцвярджае ФСБ, гвалтоўная змена ўлады ў Беларусі планавалася на 9 мая.

**Юрась Зянковіч** — 43 гады. Быў актывістам Партыі БНФ, абіраўся ў Ждановіцкі сельскі савет на мясцовых выбарах. Дабіўся, каб у пасёлку была вуліца Васіля Быкава. У 2007 годзе эміграваў у ЗША, атрымаў там грамадзянства. Спачатку жыў у Дэнверы (штат Каларада), працаваў разносчыкам піцы. Пасля перабраўся ў Нью-Ёрк, стаў адвакатам, займаўся справамі міграцыі. Хацеў вылучацца ад Партыі БНФ кандыдатам у прэзідэнты ў 2020 годзе, але прайграў Аляксею Янукевічу.

**Аляксандр Фядута** — 56 гадоў. Паліттэхнолаг, літаратуразнавец-пушкініст. Быў сакратаром камсамола. У 1994 увайшоў у каманду Аляксандра Лукашэнкі, пасля перамогі на выбарах стаў кіраўніком упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта. Менавіта ён узяў на сябе адказнасць за з'яўленне ў газетах «белых плямаў». У 1995 сышоў з пасады, супрацоўнічаў з многімі незалежнымі выданнямі. Аўтар кнігі «Лукашэнка. Палітычная біяграфія». У 2010 годзе стаў адным з кіраўнікоў кампаніі «Гавары праўду». У канцы таго ж года трапіў у «амерыканку», адсядзеў чатыры месяцы.

**Аляксандр Перапечка** — жыве ў Сіэтле (ЗША). Скончыў аспірантуру БДУ і дактарантуру Вашынгтонскага ўніверсітэта. Доктар філасофіі па спецыяльнасці «Эканамічная, сацыяльная і палітычная геаграфія». Удзельнік міжнародных навукова-аналітычных праграм у Беларусі, Расіі, ЗША і Францыі. Эксперт па статыстычных мадэлях і Усходняй Еўропе. Кансультант па геапалітыцы, геастратэгіі і элітам.

**Павел Кулажанка** — 36 гадоў. Жыве ў Нью-Ёрку (ЗША). Служыў ва ўнутраных войсках у Полацку і Мінску і АМАПе. Сышоў са службы ў 2011 годзе. Скончыў юрыдычны факультэт БДУ. У ЗША з'ехаў жыць па грын-карце, працуе трэнерам. Летам 2020 падтрымаў пратэсты ў Беларусі.

**Дзмітрый Шчыгельскі** — псіхіятр, які ў 2001 годзе завочна паставіў Лукашэнку дыягназ. Пасля гэтага пакінуў Беларусь, цяпер жыве ў ЗША, займаецца там грамадскай дзейнасцю. Ездзіў на вайну ва Украіну дабраахвотнікам.

**Ігар Макар** — 43 гады. Родам з Гродна. Былы намеснік камандзіра баявой групы антытэрарыстычнага падраздзялення МУС Беларусі «Алмаз». Скончыў Акадэмію фізічнага выхавання і спорту. Пакінуў службу і ўзначаліў ахову былога экс-кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна, з 2006 года — у эміграцыі. Цяпер блізкі да Вольгі Карач.

**Рыгор Кастусёў** — 64 гады. У савецкія часы — дырэктар саўгасах у Магілёўскай вобласці, з таго часу асабіста ведае Аляксандра Лукашэнкі. У незалежнай Беларусі стаў сябрам Партыі БНФ. Узначальваў ЖКГ у Шклове. У 2010 годзе быў кандыдатам у прэзідэнты ад Партыі БНФ, адну ноч пасля выбараў правёў у «амерыканцы». На гэты момант старшыня Партыі БНФ.

**NN.by**

ЛІТВА І БЕЛАРУСЬ

# ПЛОШЧЫ, НАСЕЛЬНІЦТВА МЕНШ У РАЗЫ, А ЭКАНОМІКА БОЛЬШАЯ

**Літва па плошчы ў 3,2 разы меншая за Беларусь, насельніцтва ў 3,5 разы менш, а эканоміка большая. Вядомы беларускі эканамічны эксперт Яраслаў Раманчук ацаніў 30-гадовы суверэнны шлях Беларусі і Літвы. Параўнанне выйшла не на нашу карысць.**

— Літва — Беларусь 2021. Занавес. Для тых, хто ўмее думаць, і для іх супрацьлегласцей — напісаў Яраслаў Раманчук на сваёй старонцы ў Фэйсбуку. — Адзін маленькі, але вельмі гучны факт. Дзве суседкі — Беларусь і Літва. Былі калісьці ў СССР. Выйшлі з яго па-рознаму. Пайшлі ў розных кірунках. Ад слова «зусім».

Літва ўзяла курс на цывілізаваны свет: дэмакратыю, свабоду, капіталізм і сяброўства ў Еўрапейскім Саюзе.

Беларусь рукамі Кебіча/Лукашэнкі вырашыла аднавіць «былыя гаспадарчыя сувязі» і асноўныя інстытуты Савецкага Саюза: аўтарытарызм, параліч/імітацыя дэмакратыі, ашуканства бюракратыі, усёдазволенасць VIP-распарадчыкаў чужога, «савок/дзяржплан» і сяброўства ў пераважна імітацыйных інтэграцыйных праектах з Расіяй (СНД, ЕАЭС, СД).

Беларусь да сярэдзіны 1990-ых была значна большай і багацейшай, мела выдатныя стартавыя ўмовы для рыўка наперад.

Нагадаем тыя стартавыя ўмовы. У 1995-м Літва: ВУП на душу насельніцтва — $1667, або ~ $6 млрд. для ўсёй краіны. Беларусь па выніках 1995 года: ВУП на душу насельніцтва — $1009, або ~ $10,3 млрд. для ўсёй краіны. Пры гэтым у Беларусі тады было на 6,6 мільёнаў чалавек больш, чым у Літве.

І вось прыйшоў 2021 год. 30 гадоў — дастаткова часу, каб ацаніць перавагі двух дыяметральна процілеглых стратэгій развіцця.

Менавіта ў 2021-м годзе ўпершыню ў гісторыі на нашых вачах адбываецца ўнікальная гістарычная падзея. Літва, краіна з насельніцтвам у ~ 2,7 млн. чалавек вырабляе больш валавога ўнутранага прадукту (ВУП), чым 9,4-мільённая Беларусь (розніца ў насельніцтве — тыя ж 6,6 млн.). Паводле ацэнкі МВФ, ВУП Літвы ў 2021 годзе будзе $62 198 млн., а Беларусі — $60 725 млн.

ВУП на душу насельніцтва ў Літвы будзе $ 22 245 (39-е месца ў свеце), а ў Беларусі — $6487 (87-е месца ў свеце).

І гэта яшчэ не ўсё ў сэнсе параўнання двух суседзяў. У 2020-м экспарт тавараў Літвы склаў $34 млрд., а Беларусь экспартавала тавараў на $28,3 млрд. Экспарт тавараў на душу насельніцтва ў Літве перавышае беларускі ў 4,1 раза.

У Літве няма нафты, газу, золата, вугалю, металаў, алмазаў і вялізнага/ёмістага ўнутранага рынку. У яе ёсць палітычная, грамадзянская і эканамічная свабода. Яна зняла бар'еры для доступу на рынак ЕС. А гэта пад $20 трыльёнаў у год. Вось вынік. Краіна, якая па плошчы ў 3,2 разы менш, чым Беларусь, якая мае насельніцтва ў 3,5 разы менш, у 2021 годзе мае больш вялікую эканоміку, чым Беларусь. Літва актыўна прыцягвае грошы, чалавечы, прадпрымальніцкі і IT-капітал з Беларусі. Вось такая кароткая гісторыя двух суседзяў.

Занавес. Для тых, хто ўмее думаць, для тых, хто жадае шчасця сваім дзецям/унукам, хто імкнецца да росквіту сваёй краіны, на заслоне напісана адно. А вось для VIP-распарадчыкаў і спажыўцоў чужога лічбы па выніках 30-гадовага развіцця — гэта сігнал, каб гэтую заслону зрабіць жалезнай. Як было ў Савецкім Саюзе. Засталося толькі зразумець і ўбачыць, каго больш у Беларусі: першых або другіх.

**novychas.by**

ПРАБЛЕМА МУС

# МИЛИЦИОНЕР ДОЛЖЕН БЫТЬ ЗАЩИТНИКОМ…

**Профессор Виталий Стуканов, сотрудник Академии МВД, изучил проблему травли сотрудников органов внутренних дел. Условиями возникновения проблемы, по мнению ученого, стал карательный образ ведомства и его сотрудников, а также снижение авторитета власти и рост социального недовольства.**

В последнее время в травлю втягиваются граждане, которые не имеют отношения к службе в органах и часто даже не знакомы с жертвой.

Таким образом, на передний план выходит внешний или социальный буллинг — травля представителей социальной группы (в данном случае по профессиональному признаку) людьми, которые к этой группе не принадлежат…

**На втором месте — угрозы применения физического насилия.**

Психологическое дистанционирование тоже является признаком буллинга, когда граждане в общественных местах ведут себя подчеркнуто неприязненно к сотрудникам милиции. Пример — отказ обслужить милиционера в парикмахерской, на СТО.

Виталий Стуканов выделяет два условия возникновения буллинга в отношении милиционеров в 2020 году. Первое — карательный образ ведомства и его сотрудников, сформированный в общественном и профессиональном правосознании. В последние десятилетия, отмечает автор, наблюдается существенное снижение уровня доверия к милиции. Сформировался образ сотрудника не как защитника граждан, а как карающего представителя власти. Автор ссылается на свое предыдущее исследование, за 2019 год, согласно которому более 80% опрошенных сотрудников милиции из всех регионов идентифицируют свою деятельность с наказанием, карой. Это приводит к агрессивно-обвинительному уклону в работе с гражданами, в том числе не нарушающими закон.

Второе условие возникновения буллинга — снижение авторитета власти и рост социального недовольства.

— В условиях роста социального недовольства 9–12 августа произошли столкновения протестующих с сотрудниками ОВД, которые применили слезоточивый газ, светошумовые гранаты, водометы и резиновые пули. Пик социального недовольства действиями ОВД с выражением решимости бороться и нести жертвы вызвало лавинообразное распространение информации о беспричинном избиении, насилии и пытках протестующих после их задержания в РУВД Минска, ЦИП на Окрестина. В большинстве случаев ОВД и другие органы правопорядка не смогли аргументированно опровергнуть активно тиражируемую негативную информацию о немотивированном насилии со стороны милиции, а также обосновать необходимость применения жестоких мер к протестующим. Неубедительно звучали заявления о том, что «разберемся потом, когда все закончится», также осталось без информационного и общественного внимания решение власти создать комиссию по расследованию фактов неправомерного обращения с задержанными. Как следствие, события 9–12 августа 2020-го обусловили крайнее нагнетание социальной напряженности и углубление протестных настроений в обществе, что обусловило рождение массового буллинга сотрудников органов внутренних дел.

**Задержали пять студентов — сотни заявили о готовности бороться**

Стуканов обращает внимание, что после 12 августа протесты носили преимущественно мирный характер.

— В общественном сознании сформировался устойчивый стереотип о ненасильственном протесте: «мирных людях, которые убирают мусор после демонстрации», «витрины не бьют», «снимают обувь перед тем, как встать на скамейку», «дарят цветы силовикам». «Лицом» массовых акций социального недовольства выступили девушки и женщины, которые позиционировались как символ мира и новой жизни. На этом фоне силовые методы борьбы сотрудников ОВД и других органов правопорядка с протестующими (применения спецсредств, задержания в общественных местах, разбитые витрины, вытоптанные клумбы цветов и прочее) воспринимались крайне отрицательно, как неоправданные, необоснованные, неадекватные обстановке….

Преподаватель Академии МВД приводит примеры. Студенты иняза пели песни в фойе, пять человек задержали, итог — «открытые выступления с решимостью бороться и нести жертвы сотен других студентов, их родителей, а также преподавателей университета». 6 сентября тогдашний начальник ГУБОПиК разбил стекло двери кафе O'Petit — это «спровоцировало акцию сочувствия пострадавшему бизнесу, выразившемся в очередях в данное кафе».

Кроме того, формированию отрицательных стереотипов о милиции способствовала анонимность деятельности сотрудников, отмечает автор исследования. Речь идет о работе в гражданской одежде, закрытых лицах, передвижении на автомобилях без регистрационных знаков…

*(сокращено)*

**tut.by**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 29.04.2021 у 18.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.